# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 9 (1253) ГОД XXV 2 САКАВІКА 1980 г. ЦАНА 1 зл.

КАВАЛЕР ОРДЭНА АДРАДЖЭННЯ ПОЛЬШЧЫ

# Аляксандр МАРЧУК

У 1914 годзе бацька Аляксандра Марчука быў мабілізаваны ў царскую армію, а маці з дзецьмі апынулася ў бежанстве ў Херсонскай губерні. Жылі яны там аж да 1922 года. Аляксандр хадзіў там у школу і разам з ведамі прысвойваў новыя ідэі, якія ўнесла ў жыццё савецкая ўлада.

Але наступіў час, калі бежанцы пачалі вяртацца ў свае родныя месцы. Вярнуліся і Марчукі ў сваю вёску Паўлы. Аляксандру было тады 14 год. Жыццё на вёсцы пры санацыйнай Польшчы не было лёгкае. Марчукі працавалі на гаспадарцы.

Ішлі гады. Аляксандр прызваны быў у войска і служыў у Познані ў кавалерыі. На Познаншчыне добра развівалася спулдзельчасць. Кааператыўны рух быў там папулярны. Аляксандр Марчук, вярнуўшыся з войска, стаў актыўным прапагандыстам і арганізатарам. У 1936 годзе ён і іншыя перадавыя сяляне ствараюць раённую сельскагаспадарча-гандлёвую спулдзельню, якая мела свае крамы ў Цялушках (у той час Марчукі жылі ўжо ў Цялушках), Паўлах і Сацах. Усе артыкулы першай патрэбы ў гэтых крамах можна было набыць. Аляксандр Марчук у спулдзельні працаваў бухгалтарам. І гэтая прафесія будзе яму спадарожнічаць на працягу многіх гадоў. Пры савецкай уладзе з'яўляецца ён бухгалтарам Горпо (гээсу) у Заблудаве, які быў у той час раённым цэнтрам. Уменні свае Аляксандр Марчук удасканальвае на спецыяльных чатырохмесячных бухгалтарскіх курсах.

(Працяг на стар. 4)





*І ў чысценькім і дагледжаным пэгээраўскім прадшколлі таксама ёсць будучыя музыканты.*

КУЛЬТУРА Ў ПГРы

# Дырэктар марыць пра аркестр...

Хоць гэта і лічылася „пара зімовай перадышкі", але ў ПГРы ў Крынках ніхто палегцы не хадзіў. Поўным ходам рыхтаваліся да вясны. Механікі і трактарысты рамантавалі машыны, прыгналі з фабрык і станцыі новыя. Арганізаванае ў мінулым годзе ўласнае рамонтна-будаўнічае прадпрыемства з пераробчай здольнасцю 12 мільёнаў у год заканчвала пабудову сушыльні збожжа з элеватарам на 3,5 тысяч тон. Але найважнейшай справай было сабраць дастатковую колькасць і з належнай падрыхтоўкай аўчароў, бо пэгээр пераймаў ад Шудзялаўскага эскаэру аўчарню ў Гуранах з 1200 авечкамі і прыступаў да „засялення" нядаўна збудаванай аўчарні на 3200 штук. І кожны чабан, што з'яўляўся ў кантору, разам з пасведчаннем аб прыняцці на работу атрымоўваў у рукі ключы да ўласнай новенькай, выцацканай, выгоднай кватэры ў пасёлку пэгээраўскіх высотных дамоў. Ніхто, нават вельмі пажаданыя і надта „дэфіцытныя" трактарысты не карысталіся тады аж такімі прывілеямі. З адным-адзіным выключэннем — праца і ладная кватэра чакала настаўніка музыкі і адначасова арганізатара культурнага жыцця ў ПГРы. Так, авечкі і культура тут з'ядналіся як самыя важныя справы.

Але калі з авечкамі — вядучай спецыяльнасцю Крынак — справы, хоць не без цяжкасцей і клопатаў неяк утрасаюцца: прыбывае чабаноў, нядрэнна загаспадарана паша, нарыхтаваны корм, дык з культурай — не тое! Не скажаш, каб тут нічога не рабілася. Але ўсё яно купленае, прывазное або выязное.

— Арганізуем мы многа экскурсій у Варшаву, на Узбярэжжа, у горы, па ўсёй Польшчы, — не без гонару заўважае вядучая працаўнічыя справы **Яніна Клімук**. — Зараз збіраемся ехаць у Варшаву на „Падвячорак пры мікрафоне", а потым паедзем у Бяшчады — будзе Пшэмысль, Ланцут, заглянем у Чэхаславакію. Дзецям ёлку рыхтуем у Лялечным тэатры ў Беластоку. Кошт не малы: ладныя Мікалаевы падарункі, спецыяльны аўтобус, плата за ўвесь спектакль. Не шкада. Няхай малыя пабудуць у **праўдзівым** сваім тэатры, убачаць **праўдзівую** ігру на сцэне, дакрануцца да **праўдзівай культуры**...

Бо рэдка, надта ж рэдка ўдаецца крынкаўцам пакаштаваць яе. Даволі часта прыязджае сюды эстрада, выступае ў зале кіно „Крокус". ПГР звычайна набывае для сваіх працаўнікоў многа білетаў, або спецыяльныя канцэрты. Але часцей за ўсё — гэта выманьванне вялікіх грошай і яшчэ большая насмешка над гледачамі, бо няма чаго ні паслухаць, ні паглядзець. Як хоць бы нядаўні спектакль „Увага! Пароль: „Парадак". Ніжэй дна!.. Толькі беластоцкі спявак Я. Ляскоўскі з пашанай аднёсся да крынкаўскіх любіцеляў песні і даў канцэрт на высокім узроўні. І яшчэ паслухаць нядрэнную музыку дазваляе група музыкантаў Беластоцкай філармоніі. Выступае яна ў элегантнай канферэнцыйнай зале праўлення ПГРу, дзе паркет, як люстра, сцены ў шыкарных магоневых панелях, а з вокан ва ўсю сцену прасціраецца неабсяжная прастора пэгээраўскіх палёў...

(Працяг на стар. 2)

# БАЧЫЦЬ СЭРЦАМ

У адрозненні ад сына ў нашай вёсцы называлі яго Старым Бажком. Старым і сляпым. Але ў найгоршы час акупацыі, калі ў нашай вёсцы гітлераўцы пабілі шмат у нічым не вінаватых людзей, Стары Бажок, як заўсёды, седзячы на лавачцы пад яблыняй, гаварыў людзям у задуменні:

— Чым усё гэта кончыцца? Вось хацелася б пабачыць!

— То ж вы сляпыя, дзеду! — гаварылі мы яму. — Як вы пабачыце?

— Я сэрцам бачу, — сцвярджаў стары дзед і горда падстаўляў пад сонца свае мёртвыя вочы і пасівелую бараду.

**Бачыць сэрцам** — значыць, глядзець далей уласнага носа, далей за круг асабістых спраў і зацікаўленняў.

**Бачыць сэрцам** — значыць, аднолькава адносіцца да ўсяго таго, што мае прыватнае і да таго, што агульнае, грамадскае, дзяржаўнае, або проста чужое.

**Бачыць сэрцам** — значыць, цаніць чалавека не за званне і пасаду, а перш за ўсё за працу, ды не ўвогуле абы-якую працу, бо можна сапраўды працаваць, а можна толькі ствараць уражанне, што працуеш.

**Бачыць сэрцам** — значыць, аднолькава цаніць чалавека незалежна ад яго мовы і выгляду.

**Бачыць сэрцам** — значыць імкнуцца да таго, каб усім нам, хто сумленна працуе, жылося ўсё лепш і выгадней.

**Бачыць сэрцам** — значыць, змагацца за мір, за раўнапраўныя суадносіны між народамі і дзяржавамі.

**Бачыць сэрцам** — гэта нялёгкая ўмеласць. Ёй вучаць нас пастановы VIII З'езду Польскай аб'яднанай рабочай партыі, а перш за ўсё **праграмны даклад** Палітбюро Цэнтральнага камітэта партыі, з якім на з'ездзе выступіў **Эдвард Герэк**.

Усе праявы нашага ўнутранага дзяржаўнага і вонкавага быту, прамысловасць і сельская гаспадарка, грамадскія суадносіны і звычайныя будзённыя справы кожнага з нас у гэтых пастановах знайшлі сваё месца.

Хто ўмее хаця крыху глядзець сэрцам, той не можа не заўважыць, што ў нашай краіне няма аніводнага добрасумленнага чалавека, якому зараз жылося б горш, як пяць-дзесяць гадоў таму назад. Вядома, паяўляюцца ў нас усё новыя і новыя патрэбы, якія нялёгка даводзіцца нам абяспечваць. Але ж гэта якраз і вынік, і паслядоўнасць нарастаючага дабрабыту. У мінулым дзесяцігоддзі асабліва шпарка — і ў горадзе і ў вёсцы — павялічыліся грашовыя даходы насельніцтва. То ж адных толькі новых месц працы за гэты час было створана звыш 2,5 мільёна. Значыць, столькі новых рабочых пачало прыносіць сваім сем'ям дадатковую зарплату. Кожны з нас мае ў сваім кругу знаёмых па некалькі такіх сем'яў, у якіх дочкі і сыны перасталі быць „цяжарам" для бацькоў і перайшлі на свой уласны „гаршочак".

Зараз не прадбачваецца такога шпаркага павышэння зарплат. Партыйныя дакументы вызначаюць у сярэднім **дзесяціпрацэнтны** прырост рэальнай зарплаты на працягу 1981-1985 гадоў. Рэальнай, значыць, такой, якая раўнаважыць магчымую змену цэн.

Пры гэтым партыя выступае супраць заробкаў, неабгрунтаваных рэальным укладам працы. А такія ў нас, на жаль, здараюцца. Часам зусім афіцыйна. Вось нядаўна нашу рэдакцыю наведала двое сялян з адной вёскі, дзе знаходзіцца сельскагаспадарчы камбінат. Адзін з гэтых сялян, солтыс вёскі, вось і пытае мяне:

— Скажыце, рэдактар, ці ў нас „ужэнднік" нават без вышэйшай адука-

(Працяг на стар. 4)

# Уладыслаў Стшэлецкі

*Ул. Стшэлецкі — лодзінскі паэт, даўно вядомы чытачам „Нівы". Некалькі дзесяткаў гадоў з'яўляецца ён сакратаром ваяводскага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы ў Лодзі і ў апошнія гады ў Скерневіцах. За выключныя заслугі ўзнагароджаны ордэнам Штандару працы.*

*Вершы Стшэлецкага характарызуюцца выключным грамадзянскім накалам і лірызмам. Паэт заўсёды трактаваў сваю творчасць як шлях да чалавечых сэрцаў.*

*Да сваіх папярэдніх зборнікаў: „Polska", „Dzień się zaczął", „Śpiew o trudzie" дадаў паэт у апошні час зборнік „Czas najwyższy".*

*Здаецца мне, што ў чытачоў „Нівы" выклічуць зацікаўленне новыя вершы паэта.*

*Алесь Барскі*

### ПРАДВЕСНЕ

Быць можа кіну я
Балючым словам,
Нібы гарачай галавешкай
З жарам.
Ды зразумей —
Нядобрыя наровы
Таго, хто ёсць
Ахутаны пажарам.
Словы мае
Раслі ў кустах пратэсту,
Шукалі сцежак
З цемры векавечнай.
І вось знайшлі
Здзяйсненні свае месца,
Так як свяча
Знаходзіць свой падсвечнік.
Мы больш не вернемся
У свет нядолі;
Мінулае сваёй рукой
Загубім
І будзем сведкамі
Трыумфу волі,
Якую пацалуем
Шчыра ў губы.
Нам разараць цаліны
Неабходна,
Кінуць зярняты
Сонечныя ў глебу,
Каб болей не было
У нас галодных,
Каб каласілася айчына
Хлебам.
Без смеласці
Нічога не парадзім,
Дык гуртам, толькі згодна
І супольна,
Каб больш ніхто
Нікога з нас не здрадзіў,
Каб верны быў
Адной ідэі — вольнасць.
А мне
Правоў не трэба спецыяльных;
З людзьмі мой крык,
З людзьмі мае турботы.
Прашу я у жыцця,
Прашу лаяльна:
Дай часу больш,
Каб выканаць работу.

### ПРЫВІТАННЕ КЕЛЕЦКАЙ ЗЯМЛІ

Густою кратай межаў,
Бараной зубастай
Дзень летні палажыў
Далонь на цёплых нівах.
Вясною зёрнамі
У глебу шчыра шастаў
А сёння спаліць рунь —
Сялянскую шчаслівасць.
А селяніну ураджаі
Вочы дзівяць,
Валодаюць душою,
Запалоняць мозгам;
Калісьці у Рытвінах
Гасцяваў Радзівіл.
А сёння ў ваяводстве
Гаспадарыць Озга.
Зямля. Ты ежышся
Лясамі ў небасхіле,
Хоры птушыныя
Штодзённа ранкам будзіш;
Прыносіш люду польскаму
Ты моц і сілу,
Надзею, што жыць
Лепей і разумней будзем.
Сыны сялянскія
Заселі у палацах,
Каб радзіць над зямлёй
І над сялянскай доляй,
Каб заклікаць
Сягоння Юдымаў да працы.
Бо шчырых рук і сэрцаў
Патрабуе поле.
Дык прыгажэй зямля
І кветкамі і збожжам!
А мы табе запэўнім
Мір і лад і згоду
І песнямі на штодзень
Шчыра упрыгожым,
Каб жыў з табою люд,
Каб ты жыла з народам.

Пераклад **А. Барскага**

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ






І. Баравік з'яўляецца студэнткай Філіі Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. Днямі выйшаў яе першы паэтычны зборнік (аб ім у іншым месцы). Сёння друкуем самыя новыя вершы маладой паэтэсы.

* * *

*не паверыце — прыгажэю з кожнай ноччу*
*ад часу як між вачамі стрэліла мне Геракліта́ва*
*цёмная мадам з драпежнымі кіпцюрамі*
*ад таго як на прагулкі*
*выбіраемся з Эйнштэйнам падручку*
*нам заўсёды разам біноклі спадаюць з вачэй*
*а ў іх топіцца бляск*
*недасягальнай ідэалогіі неба*
*я не лунатык і рэдка іду прама*
*ў краявід серабрысты названы месяцам*
*я не лунатык — ноч даволі кароткай сарочкай*
*закрывае трывожны сон маёй суседкі*
*яна нездаровая:*
*ёй няспыннасць улезла ў кроў*
*тчэ павукоў Пенелопе*
*на памяць мінулага*
*яна вельмі нездаровая:*

*і здарыцца спынімся разам —*
*агонь на мінуту прыгасае*
*касавурымся з недаверам*

* * *

*а ты заўсёды*
*о ты ўжо заўсёды чужым ценем*
*чужым ценем — крыкам белым*
*будзеш падаць са скрыжаванымі рукамі*
*з вачамі распятымі ў палавіне дарогі*

*а ты заўсёды — як гэта добра ведаеш —*
*без дому*
*а твой дом — белы сон — так вялізны*
*што ў ім не змесціцца*
*ніводзін цёплы куток*

*словы па дарозе замярзаюць*
*у дробна дакучлівыя камені*
*з гэтага дыму проста ў твар — не вяртаешся*
*аж метафары скруцяцца ў вяроўкі да неба*
*самыя праўдзівыя вяроўкі няўдач*

*з рукамі скрыжаванымі да малітвы*
*з далонямі распятымі да праклящця*
*заціскаем бяздомнасць і зубы*
*каб вецер не вырваў чорных варон*
*што схаваўшыся пад тваім языкам*
*насмешліва хіхочуць*

*не раздасі ў падарунку аплеценых стужкамі губ*
*сваёй усмешкі мудраца-ірані́ста-меланхоліка*
*з вачыма ўзнятымі на апошні паверх недарэчнасці*
*благаславіш сівыя валасы месяца*
*першага далёкага знаёмага ў бездарожжы*
*і навекі зацягваеш бездажджовымі хмарамі*

*такая песня — такой песні высокай*
*не раскалышаш на кволых бярозах мінулага*

* * *

*схаваўся крывы нос часу — па яго блазнах*
*засталіся асцерагальныя званы*
*ў шырокім прасторы між вушамі*

*тым дзе белыя дарогі*
*для трамваяў неапераных думак*
*пякучыя дарогі*
*у глыбіню костнага шпіку*
*да ўзлятаючых з крыкам чырвоных жураўлёў*



*ёй Дыяніра ўкладала скуру*
*а на касмічныя прагулкі*
*ходзіць з ёю самая высокая абстракцыя*
*зусім няглядзячы на пару года ці дня*
*Трывожны сон маёй суседкі — сястрычкі невясёлай*
*бачу так падрабязна — жыцці асобныя*
*кожнай кроплі крыві*
*яе сумненні*
*бачу так — Эйнштэйн узяў мяне на рукі*
*і мы плывем — як заўсёды невядома куды*
*даплыць не паспеем*
*заняць берагі прыяцеляў і ворагаў*

*Душа люстра — краявід дарогі чыста зложаны*
*з іудавых вачэй — мяне таксама падглядае*
*каб добра прадаць багацце пекла небу*
*— таму я не вяртаюся*

*не вяртаюся*
*усё жывое мяне гоніць*

*схаваўся крывы нос часу — якая*
*глыбокая студня майго недаверу*

*лес густых твараў ў люстры — маўчаць*
*а ты ўжо не шукаеш адказаў*
*алавянага шкла яго алавяных вачэй*
*дрыготкай цішыні рук*
*калі ў поўнач адчыняеш дзверы пальцаў*
*калі ўбягаюць адзінокія крылы —*
*ты на ўсялякі выпадак*
*не дазволіла ім неадкладна расці*
*і старанна скрываеш ўзгоркі надзеі*
*дзе яны прымераліся ўсходзіць*

*лес густых твараў з люстра — адганяеш*
*бесталковую вайну суседа з самым сабой*
*за мяжу — раздзяляе два аркестры*
*тысячы салістаў аднаго існавання*

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

## Напісанае на ўроцлаўскім вакзале

Я ведаў, што цябе даўно няма тут, але ўсё-такі шукаў твайго позірку, нават у прывабнай прадаўшчыцы гваздзікаў ля ратушы чырвона-цагляная. Мне чамусьці здавалася, што вось напаткаю я недзе хоць дачку тваю, пэўна, гэтак жа задуменную паненку, дваццацігадовую ўжо...

Я Крынкі бачу, калі ў далечынях апынуся.

І чуў-не чуў я праваднiка свайго ва Уроцлаве, сімпатычнага паляка, які, намагаючыся прыняць да сябе спадчыну прускую ў гэтай, нездаровай яму, камарынай даліне Одэра, цягаў мяне ў касцёлы бяздарна-высокія, яшчэ Пястовічаў, што, менавіта, без Айчыны засталіся ў задворках Еўропы. Ды я, замест надыхацца пахамі гісторыі трагічнай, сумотна лавіў пошум пушчы па-над Свіслаччу, у прасторах беларускіх, і мроіў красу буйнага мая ў садах крынкаўскіх, і шэпты кахання вячэрняга пад кучмамі бэзаў прывулічных, і твой вобраз дзявочы ўзнаўляў — не здзіўляйся! — з натугай амаль старэчаю, і паўставала ўваччу сцежка да той хаты, па-хлапечаму снёнай...

Не першы раз я ў гэтай краіне, чужой мне.

П'яны са смутку, я валошку ўяўляў сабе сінюю, як неба, блакітную, як годнасці сімвал. (Кветку гэту палявую прапаную я ўчыніць гербам Дабрарусі шматпакутнай, усё францішканскай.)

Я, бадай, не хачу цяпер ведаць, дзе ты жывеш, і стрэчы з табою не жадаю зусім. Патрэбна мне адно ўяўленне аб табе або, мабыць, і не яно, бо я, калі падумаць моцна, улюбёны быў у магчымую веліч прыгажосці цела і душы тваёй, не ў цябе самую, рэальную. І баюся падумкі аб тым, хто ты зараз! — Нехта зласліва можа сказаць пра мяне, што кахаю я сваё, колішняе, каханне да цябе. І мне, аднак, цяжка будзе запярэчыць гэтаму, у такіх словах нямала праўды акажацца...

Я, ведаеш, так і не зразумею (карыслівай?) шчаслівасці ў тым чалавеку, якому ўдалося перастаць быць сабою.

...З поснай палёгкаю ўнутры, я сеў у вагон хуткага цягніка Уроцлаў-Беласток, які неўзабаве крануўся ў дарогу.

*(З падрыхтаванага да друку перакладнога тома „Малыя дні".)*



**Саколка.** Хуткімі тэмпамі развіваецца тут жыллёвае будаўніцтва, а цэнтр горада ўжо выглядае эфектна і сучасна. У бягучым годзе будзе закончана пабудова запланаваных на гэтую пяцігодку 1 150 жылых кватэр у спулдзельчым будаўніцтве. У 1979 годзе іх пабудавана 154. У рамках індывідуальнага будаўніцтва пабудавана 91 кватэра. Ключоў да ўласнай кватэры ў блоку чакае 1 360 членаў і кандыдатаў жыллёвага кааператыва. Цяпер будуецца 246 аднасямейных дамоў. Перспектыўны план да 1990 года прадбачвае пабудову каля 3 300 кватэр.

Зараз разбудоўваецца прадпрыемства будаўнічай сталяркі „Стольбуд" і прадпрыемства па вытворчасці прылад і абсталявання для харчовай прамысловасці „Спомаш". Будзе мадэрнізаваны і разбудаваны чыгуначны вакзал. Прадбачваецца таксама пабудова дарожнага аб'езду горада.

У мінулым годзе гараджане выканалі грамадскі пачын на суму сем мільёнаў злотых. Яны будавалі прадшколле, пракладалі тратуары, добраўпарадкавалі пляцоўкі для дзіцячых гульняў. (яц)

## ТОЛЬКІ АДНО ПЫТАННЕ

Мы звярнуліся да начальнікаў гарадоў і гмінаў Беластоцкага ваяводства з пытаннем:

**— Што вы лічыце за найважнейшае грамадска-гаспадарчае дасягненне ў гміне ў мінулым годзе?**

Сёння адказваюць:

**МІКАЛАЙ ЧЫКВІН, начальнік гміны ў Дубічах Царкоўных:**

— У мінулым годзе Дубіцкая гміна заняла першае месца ў ваяводстве па прымяненню мінеральных угнаенняў. На кожны гектар тут падсеялі па 176 кг НПК у чыстым рэчыве. Сяляне нарыхтавалі значна больш свайго корму для свіней і для быдла. Таму і павялічылася колькасць свойскай жывёлы ў пералічэнні на кожныя 100 га зямельных угоддзяў. Для прыкладу, быдла маем на 6 штук і свіней на 14 штук больш, чым сярэдняя ваяводская. Гміна заняла першае месца ў ваяводстве па авечкагадоўлі. Цяпер у нас у пералічэнні на 100 га зямельных угоддзяў прыпадае па 50 авечак (сярэдняя ў ваяводстве — 23 штукі).

У мінулым годзе мы закончылі электрыфікацыю ўсіх вёсак і нават малых пасёлкаў.

У тым жа годзе мы пабудавалі звыш 2-кіламетровы адрэзак жвіровай дарогі з Вітава ў Пяскі. Не абышлося без грамадскага пачыну жыхароў нашай гміны. Планавалі спамянутую дарогу пабудаваць за два гады, а пабудавалі за 10 месяцаў. Цяпер жыхары нават невялікіх вёсак маюць добрыя дарогі. Асабліва ў напрамку цэнтра гміны — Дубічаў Царкоўных. Праўда, ёсць яшчэ пясчаная дарога са Старыны ў Гурны Груд. Але ўжо ў бягучым годзе плануем на яе навезці жвіру, абкапаць. Са Старыны ў Дубічы ездзяць ужо аўтобусы.

У Ягадніках (гэта вядучая вёска ў гміне) у мінулым годзе, 22 ліпеня, мы перадалі ў карыстанне прасторную, з некалькіх пакояў ды са сцэнай вясковую святліцу. Ягаднічане пабудавалі яе сваімі рукамі. Яны вядомыя актыўнасцю. У святлічным будынку зараз адкрылі клуб прэсы і кніжкі. Аб ім шырэй ужо было напісана ў 7 нумары „Нівы", ад 17 лютага бягучага года.

**Мгр інж. СТАНІСЛАЎ КАНДРАЦКІ, начальнік горада і гміны Супрасль,** паінфармаваў: у мінулым годзе важнейшыя грамадска-гаспадарчыя дасягненні мы аднатавалі перш за ўсё ў сельскай гаспадарцы, у пабудове мясцовых дарог, у галіне гандлю і паслуг, у камунальнай гаспадарцы і ў галіне асветы і фізкультуры.

Удалося нашым сялянам не знізіць пагалоўя свойскай жывёлы. А, як вядома, апошнія гады былі нялёгкія для сельскай гаспадаркі. Спраўна загаспадарылі мы меліяраваны аб'ект зялёных угоддзяў Агароднічкі-Каракулі, які займае плошчу 139 гектараў.

Значна павялічылася колькасць спецыялістычных гаспадарак — з 40 да 53 (сярод іх найбольш займаецца жывёлагадоўляй).

Паспяхова былі выкананы (і крыху перавыкананы) планы скупкі: свіней прадалі 194 тоны, быдла — 249 тон і малака — 2452 тысячы літраў.

У 1979 годзе закончылі пабудову 3-кіламетравага адрэзка дарогі з Супраслі ў Целічанку, паклалі асфальт на 6-кіламетровым адрэзку з Краснага Лесу ў Маёўку і мадэрнізавалі 10-кіламетровы адрэзак шашы з Супраслі ў Сакалду.

У мінулым годзе было адноўлена прадпрыемства драўнінная прамысловасці ў Супраслі і ля мэблевага цэха пабудавалі лакіровачную.

У вёсцы Каракулі была адкрыта спажывецкая крама.

У Супраслі былі адкрыты дзве майстэрні: па рамонту гадзіннікаў і па абнаўленню і вырабу скур.

У мястэчку Супрасль пабудавалі 250-метровы адрэзак вуліцы Жвіркі і Вігуры і праклалі 400 пагонных метраў тратуараў. Пабудавалі водаправодную сетку па вуліцах Варынскага і Новай ды на пасёлку Левітоўка. Уладзілі новыя скверыкі і пабудавалі дзве стаянкі аўтамабіляў у Супраслі па вуліцах Беластоцкай і Дольнай.

У Агароднічках закончылі рамонт школы і пачалі капітальны рамонт ліцэя ў Супраслі. Пабудавалі святліцы ў Саўлянах і Генрыкове. Распачалі рамонт евангеліцкага касцёла, вежа якога будзе адаптавана на сядзібу Таварыства прыяцеляў Супраслі.

У мінулым годзе жыхары Супрасльскай гміны выканалі грамадскіх пачынаў на суму 6 мільёнаў 218 тысяч злотых (у пералічэнні на аднаго жыхара прыпадае з гэтай сумы па 623 злотых).

Падрыхтаваў **Янка Целушэцкі**

Сто, дзвесце метраў... Гляджу — у траве ляжыць, рукі раскінуўшы, ужо мёртвы Павол Буховэць... Здаецца так яго прозвішча? — звяртаецца ён да жонкі.

— Буховец, — папраўляе яго жонка, і дзядзька Аляксандр прадаўжае:

— ...а крыху далей хтосьці енчыць ад болю, відавочна паранены. Па голасе пазнаю, што гэта Ян Сідарчук, якому гітлераўцы так і не даравалі — пазней ужо дабілі яго, калі іншых расстрэльвалі... Але тады... Можа дапамагчы чалавеку? — падумаў. — Толькі як? Вось, вось набліжаецца трэцяе кальцо карнікаў. Чую крык: *„Гальт! Камуніст капут!"* Вядома, нямецкай мовы я не ведаў. Толькі да яўрэйскай гаворкі даводзілася крыху прыслухоўвацца на кірмашах у Сямяцічах. Калі аднак смерць загляне ў вочы, тады і па-кітайску чалавек зразумее, не толькі панямецку. Я спыніўся, выцягнуў рукі над галавой, мае дакументы і „чырвонцы" паляцелі з ветрам... Адзін з немцаў цэліцца ўжо ў мяне, а я стаю, як ствол дрэва, з дзвюма абрэзанымі галінкамі. У думках развітваюся з жыццём і блізкімі, але гляджу гітлераўцу проста ў вочы. Другі з іх падняў руку: значыць, не страляць. І сам крычыць: *„Рус камуніст?"* А я кручу галавой, што не і таксама крычу: *„Цывіль-хазяй!"* Ён

(Працяг на стар. 6)

## КНІЖНЫ ДЭБЮТ



І маем чарговую кніжку — першы зборнік Ірэны Баравік. З яе творчасцю на працягу добрых некалькіх год знаёміла чытача „Ніва". Зараз атрымоўвае яна асобнае кніжнае выданне, што дазволіць больш сканкрэтызаваць погляды на творчасць гэтай маладой паэтэсы, яшчэ студэнткі. „Супраць ветру" — такі загаловак дала яна свайму зборніку паэзіі, у якім прабуе глянуць на сэнс людскога жыцця і на акружаючы яго свет. Аналіз гэтых дзвюх спраў ператвараецца ў абвінавачанне. Асуджаючы свет, асуджае яна адначасова і чалавека, бо, паводле аўтара, апошні мае ўплыў на першае. Абвінавачанне тут адкрытае, як заяўляе сама паэтэса ў аўтабіяграфічнай нотцы: „Нязмерна мне прыкра, што я не ведаю, што маю зрабіць, каб ён быў лепшы".

Зборнік (рэдактар Мікалай Гайдук) выйшаў тыражом 1 000 экземпляраў. Гэта чарговае выданне Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку. Зборнік падзяляецца на тры раздзелы, а ў цэласці ілюстраваны графікай Вячаслава Шума. Цана кніжкі 10 зл., а набыць яе можна ў ГП БГКТ у Беластоку на вул. Варшаўскай 11, і ў гуртках БГКТ у Бельску і Гайнаўцы. (мш)

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...у Крынкаўскай гміне добра працуюць абутковае прадпрыемства і фабрыка мінеральных напіткаў. Першае прадпрыемства выпускае 3000 пар абутку ў месяц агульнай вартасцю 1,2 млн. злотых, другое — завод мінеральных напіткаў — выпускае 30 тысяч бутэлек „Крынкі" ў суткі.

...у Гарадоцкай гміне рэзка змяншаецца колькасць гаспадарак. Калі ў 1977 годзе было іх 1518, дык у 1979 годзе ўжо 1311.

## ПАЛОСКА ДЗЯДЗЬКІ КВАСА

# Брава, Тургенеў!

Прыведзеная мною малацьба цэпам — горкі ўспамін нашай адсталасці (не з нашай віны), якая найдаўжэй падтрымлівала ў цэнтры Еўропы бой з нашым народам, якая не з яго віны была куды цяжэйшая, чым у іншых народаў. Час усміхнуўся і нам. І на нашу вуліцу прыйшло свята. Роўныя, поўнапраўныя, супольна з іншымі народамі, расцем эканамічна і культурна. З небывалымі дагэтуль паказчыкамі. Жыць бы, здаецца, не паміраць. Але... як сонечны дзень, ні стуль, ні зсюль, затуманіцца, як ні бач, акутаецца навальнічнымі хмарамі, навёўшы несамавіты жах на ўсё жывое, так і на нас найшоў нейкі „халэмус", у сілу якога нашчадкі фенаменальнага племені, бы ачумелыя, знікаюць з роднай нацыянальнасці, замятаючы за сабою сляды. І сказаць нам тут няма чаго. Малы жаль, зрэшты. Можа, нас, беларусаў, астанецца не так і многа, але не будзе пуста. Як будзем ісці слядамі бацькоў і дзядоў, зберажэм іх даробак, дабавім свой.

А малацьбу ў чатыры цапы варта было б увесці ў маладзёжны спорт. Гэта будзе не толькі цікавым, але і карысным. Можа ў жыцці прыдасца. Яшчэ і як!

Ад часу сусветнага патопу нячыстая сіла вісіць над мірнымі народамі. Злачынцы сталі як бы законам прыроды, хоць чалавек надзелены (усё той жа прыродай) цудоўным дарам: розумам і фантазіяй. Розум ад нараджэння да глыбокай старасці не старэе і, пакуль аблівае яго цёплая кроў, працуе, прадукуючы ўсебаковыя веды тых самых законаў прыроды, узбагачае істоту чалавека, яго найдалікатнейшыя пачуцці, цноту, хараство, развагу, узвышае цану жыцця. І гэтая разумная істота, цуд прыроды, дабіўшыся небывалага развіцця, не можа ніякім спосабам пазбавіцца рыс, навыкаў, юру дагістарычнага чалавека. Нашчадкі Каіна зусім не скрываюць сваіх намераў. І будзь тут разумны, саматужны філосаф Дзядзька Квас...

Як там будзе, гадаць не станем, бо будучыня, як заўсёды, на вадзе віламі пісана. Але я ўсё ж на тым стаю, каб наша моладзь, падзяліўшыся чацвёркамі, за цапы бралася. Варта гэту польку ўмець. Бо як давядзецца, няўмеўшы, можна ілбы адзін другому патрапаць. А тады не захочацца стыляваць модную паэзію. Я гэта кажу па-сяброўску. З асабістага вопыту ведаю. Калісь (я казаў і не даказаў), малоцячы ўчацвёрку, дапусцілі мы няўмельца, нахабнага свінабоя. На першым падцэпку ён хацеў паказаць неймаверна моцны ўдар. З размаху аж пахіснуўся, і ўдар біяка прыйшоўся не па снапу, а па маім ілбе. Добра, што ў мяне лоб бараній моцы, не раскроіўся напапол. Але іскры пасыпаліся з вачэй, бы на Каляды зімныя агні ўбачыў. А звон, браткі мае, які я пачуў у сваёй галаве, зазвінеў усімі званамі сарака саракоў царквоў у матушцы Маскве ў першы дзень Вялікадня. Так, так, вопытам падзяліцца можам.

Але да справы. Цытую Дваракоўскага: „А ці гэта не абсурд напісаць такую ацэну Алесю Свіську? Калі чалавек не можа спаць, калі глядзіць на неба, як бы там шукаў таямніцы свайго (людскога) існавання, хоча пазнаць сусвет, калі яго хвалюе думка штодзённага быцця, але для людзей, як Славацкі, мае твар аднолькавы, „цішэ блэнкіту", тады пры чым тут астраном і неажарэбленая кабыла, пры чым тут музыкальныя слёзы і п'яніца з дзіркай у сэрцы?"

Капуста з гарохам. Забіваеш мяне Славацкім. Здагадваюся, што Дваракоўскі Славацкага ставіць у адну шарэнгу з сучасным „белавежцам". Не вораг і я А. Свіську. Ведаю і я са школьных год вялікага класіка І. С. Тургенева. У час знясільваючай касьбы, выцершы рукавом кашулі наплыўшы на вочы пот, заўсёды прадэкламую: „Как хорошо летом в жару лежать под разветвистым деревом и сквозь зеленую листву смотреть на голубое небо".

Не давялося мне на працягу доўгага жыцця нават паўгадзінкі ўведаць гэткай раскошы. Летняй гарачыні мы ўдзячны, што дазваляе сабраць ура-

(Працяг на стар. 7)

Імпартгумар

## БЫЛЬ І НЕБЫЛІЦА

**Глядзіш:** ён не ў школе на ўроках за коскі тузае, партфельчык носіць дадому.

**Глядзіш:** празвінеў апошні званок. Скончыліся школьныя гады. Яна ў інстытут паступіла, ён — на завод. Яна вучыцца, ён працуе.

**Глядзіш:** пажаніліся. Ён стаў вучыцца, яна працуе.

**Глядзіш:** ён — галоўны інжынер, яна — кандыдат навук. Машыну купілі, каляровы тэлевізар.

**І вось кіно скончылася. Прыходжу дадому.**

**Гляджу:** дзяўчынка зусім маленькая. Ёй бы яшчэ ў лялькі гуляць, а яна ўжо маме дапамагае і вучыцца добра. А ён вымахаў — сажань у плячах. Вучыцца не хоча, усё на гітары брынкае. Узяла яна над ім шэфства. Скончылі школу на выдатна. Яна ў інстытут падалася, а ён — у армію.

**Гляджу:** ён — ужо камандзір, яна — урач. Пажаніліся. Дзеці пайшлі. Машыну купілі, каляровы...

**Выключыў тэлевізар. Уключыў радыё.**

**Чую:** хлопца так і цягне да кніжак. Не, каб у двары ў футбол паганяць. Чытае і чытае. А ёй адны б толькі танцы ды гулі. Скончылі школу. Ну, ён, вядома, на фізмат, а яна ў тэатральна-мастацкі, на актрысу.

**Чую:** пажаніліся. Дзеці пайшлі. Яна ў тэатры ролі іграе, ён у інстытуце выкладае. Машыну набылі, каляровы тэлевізар.

**Выключыў радыё.**

**Бачу:** прыходзіць да мяне дачушка і гаворыць: „Тата, га, тата, а Воўка на ўроках мяне за коскі тузае. І вучыцца не хоча. Усё на гітары брынкае."

**Бачу:** скончыла мая Анюта школу, а Воўку-абібока на другі год пакінулі. Падалася Анюта ў інстытут, ды заваліла ўступныя экзамены. Пайшла на завод працаваць, а Воўка перайшоў у вячэрнюю школу ды таксама на завод падаўся.

Ходзіць Воўка да нас дадому, усё да Анюты заляцаецца.

**Бачу:** пажаніліся яны, дзеці пайшлі. Тэлевізар прыдбалі, а Воўка піць пачаў. Цярпела Анюта, цярпела, а потым кінула яго і пайшла з двума дзеткамі ў свой родны дом — да таты-мамы.

**Бачу:** лепшыя гады мінаюць, а мая старэйшая нічога ў жыцці не дасягнула. Крыўдна стала да слёз.

**Чую:** нехта мяне тармосіць.

**Прачнуўся**

— Ты што, Федзечка, плачаш? Мо, пакрыўдзіў хто? — пытаецца жонка.

— Ды вось прысніцца ж усялякае глупства... Нібыта чую пад вокнамі настойлівы гудок аўтамабіля.

**Гляджу:** Воўка з Анютай на сваёй машыне з водпуску вярнуліся. А Анюта чамусьці крычыць: „Тата, га, тата, дапамажы каляровы тэлевізар у дом занесці!.."

**С. Мірзаян**





**Розуму, як лічыць Асёл, у яго дастаткова. Не хапае высокай пасады.**

# НІЎКА



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

## БАЛАДА АБ МАЦІ

**Словы В. Шымука**

**Музыка І. Кузняцова**

Вясною і летам матуля ідзе за сяло,  
Асеннюю слотай і ў сцюжу ідзе на дарогу.  
Чакае матуля, чакае так доўга сыноў,  
Яны не прыйшлі святкаваць з ёю Дзень Перамогі.

Чатыры сыны не прыйшлі да матулі з вайны,  
Чатыры сыны, уся надзея і ўцеха матулі.  
Старэнькай і зараз здаецца, што прыдуць дахаты яны,  
Абдымуць, да сэрцаў гарачых ласкава прытуляць.  
А маці расказа сыночкам сваім маладым,  
Раскажа пра тое, што людзі пра іх не забылі.  
Матуля ідзе на бальшак, дзе чатыры дубы  
Растуць і шумяць, што калісьці сыны пасадзілі.

І дрэвы прыветна здалёк сустракаюць яе.  
І гладзіць іх маці пяшчотна рукой безупынку  
І шэпча: сыночкі, дубочкі, крывінкі мае —  
Пятруська, Аніська, Рыгорка, Іванка.

Чатыры сыны...

### ПРЫЗНАЎСЯ

Сустрэліся задрыпанцы. Адзін і пытае другога:

— Мікола, чаму ў цябе сінякі ўвесь час пад адным вокам?

— Гэта мая жонка на адно вока недабачвае.

### ГАСПАДАР ХАТЫ

На панадворак зайшоў мужчына і сказаў хлопчыку:

— Я хацеў бы бачыць гаспадара хаты.

— Пачакайце трохі, бо якраз тата з мамаю спрачаюцца, хто з іх гаспадар...



### НЕ ЗАБЛУДЗІЦЦА

Нявестка глянула ў акно і ўбачыла, як, абчэпленая кошыкамі і клункамі, да іх ідзе свякруха.

— Ну, чаго ты тарчыш, — крыкнула жонка на мужа. — Во маці ледзь сунецца, бяжы ды дапамажы. Бачыш, як гнеца старая.

Іншым разам маці прыехала без кошыкаў і клункаў. У гэты раз першым яе ўбачыў сын.

— О, глядзі, Маня, маці ідзе. Пайду сустрэну, — кажа сын.

Нявестка глянула ў акно і абыякава сказала:

— Сама дарогу ведае, не заблудзіцца.



З сербахарвацкіх баек

### РАКАВА ХАДА

Святла прамень упершыню ўгледзеў рака —  
Здзівіўся і не мог стрымацца ад спагады:  
— Дзе ж гэта так зняверыўся ён, небарака?  
Памерці лепш, чым так хадзіць — наперад задам!

### НА СМЕТНІКУ

Задзёршы дзюбу, певень ганарысты  
Распытваў вераб'я: „Скажы, браток, начыста,  
Ці песня падабаецца мая?"  
„Дзівосная... аж сэрца заміраe..." —  
Гаворыць верабей... і вушы затыкае.

**Густаў Коклец**

### РАЦЫЯНАЛІЗАТАР

— Ведаеш, як лягчэй за ўсё забіць асу?

— Не.

— Загані яе пад шафу і адпілуй у шафы ножкі.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Арыштаваны два ўзломшчыкі. Камісар паліцыі пачынае допыт.

— Вы даўно знаёмы з вашым саўдзельнікам? — пытаецца ён у першага ўзломшчыка.

— Толькі з учарашняга дня, сіньёр.

— І вы хочаце, каб я вам паверыў?

— Бачыце, ён сказаў мне, што сядзеў ужо дванаццаць разоў, і я адразу адчуў да яго давер.

*

— Шмутке, чаму вы чытаеце дэтэктывы ў час работы? — абурана спытаў начальнік.

— Бачыце, шэф, тут такі шум, што чытаць сур'ёзныя кнігі проста немагчыма.

*

Адзін студэнт заявіў сябру, што атрымае мільён долараў, навучыўшы свайго сабаку гаварыць.

— Лухта! Які дурань заплаціць мільён за гаворачага сабаку?

— Дурань, вядома, не заплаціць. Але будзь упэўнены, што любая фірма, выпускаючая корм для сабак, заплаціць кучу грошай, каб толькі ён маўчаў.



„Made in Zadrypanka". Фотаапарат сістэмы „Вам, дапытлівыя". Блакітная мара аматараў замочных шчылін.

З „Весніка Задрыпоніі"

### НАВІНЫ ВЫТВОРЧАСЦІ

Значнай эканоміі рабочага часу і матэрыяльных затрат на транспартныя перавозкі супрацоўнікаў дабіліся ў дэгустацыйным цэху № 3 завода шампанскіх він гор. Крывыя Трубкі. На днях перадавікоў вытворчасці проста ў цэху адкрыўся новы, добраўпарадкаваны выцвярэзнік.

### ПЫТАННЕ ГАПКІ

Чаму шлюбы заключаюцца на небясах, а разводы адбываюцца на зямлі?

# Курёзы

### СУВОРАЎ

Сувораў меў звычку з'яўляцца на афіцыйныя прыёмы пры ўсіх сваіх ордэнах.

На адным з прыёмаў да яго падыйшло некалькі дам, мужы якіх зайздросцілі Суворaву.

— Ой, Аляксандр Васільевіч! — усклікнулі яны. — Вы такі кволы, а на вашых грудзях столькі цяжару! Нябось вам цяжка?

— Госпадзі, як цяжка! Ой, як цяжка! — сказаў Суворaў. — Вашым мужам не пад сілу.

### КАРУЗА

Знакаміты італьянскі спявак Энрыка Каруза адбываў на аўтамабілі турнэ па Амерыцы. У дарозе аўтамабіль зламаўся. Пакуль шафёр рамантаваў машыну, Каруза зайшоў у дом фермера.

— Я Каруза, — прадставіўся спявак.

— Божа мой! Вось здзіўляюча! — усклікнуў здзіўлены фермер. — Ніколі не думаў, што я магу сустрэцца з вамі. Уяві сабе, — звярнуўся фермер да жонкі, — перад намі вялікі падарожнік Рабінзон Круза, той, аб якім мы столькі чыталі!

### ЭЙНШТЭЙН

Альберт Эйнштэйн, вяртаючыся дадому, нечакана звярнуўся да швейцара:

— Выбачайце, дзе жыве прафесар Эйнштэйн?

Здзіўлены швейцар адказаў:

— Дык... вы ж і ёсць прафесар Эйнштэйн?!

— Гэта я ведаю. Але я забыў, на якім паверсе жыву...




**Ніхто не ведае, колькі ў галаве клёпак. А як лёгка пазнаць тых, у каго хоць адной не хапае!**